*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 22 (604)

Аўторак, 9 лютага 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



## Супольная платформа Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі

Мы, удзельнікі Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі, прадстаўляючы шырокія пласты беларускай грамадзянскай супольнасці з усіх рэгіёнаў Беларусі, шматлікія палітычныя, грамадскія і прафсаюзныя арганізацыі, Вярхоўны Савет Беларусі, беларускую навуку і культуру, незалежную прэсу,

— зыходзячы з таго, што кіраванне прэзідэнта Лукашэнкі за пяць год паставіла краіну перад перспектывай анексіі, выклікала найцяжэйшы эканамічны крызіс, які прывёў да імгненнага збяднення большасці народа, свядома нішчыла беларускую мову і культуру,

— выказваючы недавер прэзідэнту Лукашэнку і гвалтоўна ім створанай антыдэмакратычнай сістэме ўлады,

— усведамляючы сваю адказнасць за лёс Беларусі, беларускага народа, яго культуры і мовы, за развіццё грамадства ў кірунку дэмакратыі, захавання правоў чалавека і асноўных свабод, рэфармавання эканомікі дзеля стварэння годных умоў жыцця кожнага,

— нагадваючы, што паўнамоцтвы прэзідэнта Лукашэнкі паводле Канстытуцыі канчаюцца ў ліпені 1999 г., і не прызнаючы ніякага незаконнага падаўжэння гэтага тэрміну,

прымаем наступную платформу ўзгодненых дзеянняў дэмакратычных сіл Беларусі ў межах канстытуцыйнай законнасці:

1. Салідарна выступаем у абарону незалежнасці Беларусі, у абарону беларускай культуры і мовы, супраць далучэння Беларусі да Расіі.

2. Падтрымліваем рашэнне адзінага легітымнага органа вышэйшай заканадаўчай улады — Вярхоўнага Савета Беларусі аб правядзенні прэзідэнцкіх выбараў у вызначаны Канстытуцыяй тэрмін і абавязваемся аказваць усебаковае садзеянне Вярхоўнаму Савету.

3. Падтрымліваем справядлівыя патрабаванні прафсаюзаў аб павышэнні рэальнага заробку і пенсій. Абавязваемся дапамагаць у ладжанні салідарных акцый пратэсту супраць збяднення працоўных і ў абарону іхніх праў. Падтрымліваем намаганні Рэспубліканскага страйкавага Камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні агульнанацыянальнага страйку з мэтай адстаўкі прэзідэнта і ўрада і правядзення вольных дэмакратычных выбараў.

Звяртаемся да ўсіх прадстаўнікоў дэмакратычных партый, прафсаюзаў, грамадскіх аб'яднанняў з заклікам прыняць актыўны ўдзел у дзейнасці Рэспубліканскага страйкавага Камітэта.

4. Дамагаемся вызвалення палітычных вязняў, патрабуем публічнага і бесстаронняга разгляду ўсіх палітычна матываваных судовых спраў.

5. Лічым неабходным шырока інфармаваць людзей пра становішча ў краіне і пра вынікі антынароднай палітыкі ўлад, арганізуючы сустрэчы ўдзельнікаў Кангрэса з насельніцтвам і спатканні дэпутатаў Вярхоўнага Савета з выбаршчыкамі.

6. Лічым неабходным узгадняць стаўленне дэмакратычных партый да любых выбарчых ініцыятыў і каардынаваць свае дзеянні.

7. Падтрымліваем незалежную прэсу, бяром на сябе абавязак бараніць журналістаў ад рэпрэсій улад.

8. Патрабуем ад улад прадастаўлення рэгулярнага прамога эфіру прадстаўнікам арганізацый — удзельнікаў Кангрэса на радыё і тэлебачанні і абавязваемся дамагацца гэтага супольнымі дзеяннямі.

9. Даручаем дэмакратычным партыям і арганізацыям — удзельнікам Кангрэса дэмакратычных сіл распрацаваць канкрэтныя меры па прызнанні рэжыму Лукашэнкі нелегітымным унутры краіны і ў міжнародных адносінах, калі канстытуцыйная законнасць у краіне не будзе адноўлена да 20 ліпеня 1999 г.

10. Звяртаемся да незалежных сродкаў масавай інфармацыі з просьбай арганізаваць інфармаванне грамадскасці пра ход ажыццяўлення гэтай платформы.

Стоп-кадр



На этом снимке агентства Ассошиэйтед Пресс запечатлены житель белорусской деревни Каленкишки Мирослав Петкун, его сын Александр и их годовалый медведь Миша. Мирослав — работник национального парка "Браславские озера", а медведя он забрал домой потому, что Миша — единственный на весь парк мишка, и, по словам Мирослава, "одному ему в лесу одиноко". Миша живет прямо во дворе, питается шесть раз в день, а все свободное от сна и принятия пищи время проводит в играх с ребятишками.

Мнение

## Плод еще не созрел

Мой хороший знакомый работает на заводе. Еще год назад его месячная зарплата в белорусских рублях при пересчете в доллары равнялась 100 долларам, а сейчас, несмотря на значительное увеличение в рублях, составляет всего лишь 35 долларов.

Моя пенсия в январе 1999 года по сравнению с октябрем 1998 года возросла на миллион рублей. Но если тогда она равнялась 23,4 доллара, то сейчас — 14,2 доллара.

Так что, богаче мы с ним стали или беднее? Ответ понятен даже первокласснику.

Ежемесячная инфляция составляет 40—45%, и нет ни уверенности, ни надежды, что ее удастся обуздать. Белорусский "зайчик" дешевеет с каждым днем, а белорусский народ беднеет с каждым днем.

Так уже не на словах, а в делах проявил себя президент за время своего руководства. Нет успехов ни в экономике, ни в политике. И не будет, пока наш президент будет смотреть не вперед, а назад, тянуть страну в прошлое.

До сознания все большего числа его сторонников доходит, что одного желания сделать жизнь людей лучше — мало. Надо еще и умение. А для руководителя государства и умения мало. Тут необходим еще и талант. Талант руководителя. А если его нет — никакие красивые слова не помогут.

Белорусы — народ терпеливый. Будут изворачиваться, кто как сможет, чтобы выжить, о бунтовать не будут до самого последнего момента. Вот на это и рассчитывает президент, оттягивая выборы до 2001 года. Надеется, что к тому времени удастся добиться кое-каких успехов.

Напрасные надежды. Время работает не на него, его сторонников становится все меньше, а все больше тех, кто приходит к выводу, что белорусский народ достоин другого президента.

Однако несмотря на это, на мой взгляд, оппозиции не следует торопить события. В стране еще много тех, кто поддерживает Лукашенко, кто, как и он, с ностальгией вспоминает прошлое и стремится к нему. Плод еще не созрел.

**С.УСЕНКО,**
**пенсионер.**

*Минск.*

Адкрытым тэкстам

## Сёння вы судзіце — заўтра вас будуць судзіць

У артыкуле Святланы Кліменценка "Не ўсе адразу — па чарзе, калі ласка!" ("Народная воля" №18 за 2.02.99 г.) распавядаецца аб праследзе органамі міліцыі і суда дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, нештатнага карэспандэнта газеты "Народная воля" Валерыя Аляксеевіча Шчукіна. Даецца даведка аб яго судовых пакараннях з прозвішчамі суддзяў, якія ўзялі на сябе адказнасць судзіць, можа быць, апошняга сапраўднага — у першасным разуменні гэтага слова — камуніста нашай эпохі.

Гэты артыкул прысвечаны сумным фактам. Улады адкрыта праследуюць чалавека за яго палітычную дзейнасць у шэрагах дэмакратычнай апазіцыі сённяшняму антынароднаму рэжыму. Па сутнасці, яны вядуць бязлітаснае "паляванне" на Шчукіна, не даючы яму перадыху ад адсідак і шматмільённых штрафаў. Асабліва ўражвае табліца з 12 пунктаў, з якой вынікае: Валерый Аляксеевіч — "рэкардсмен" краіны па пакараннях за палітычную дзейнасць.

Вывучэнне гэтых "рэкордаў" прымушае задумацца не толькі над лёсам прынцыповага дэпутата, а і над будучым работнікаў міліцыі і суддзяў, якія "трапілі ў гісторыю", дачыніўшыся да справы Валерыя Шчукіна: што іх чакае, калі ўлада зменіцца і будзе прызнана, што гэтыя служкі ўлад злоўжывалі сваім службовым становішчам і парушалі правы чалавека? Прыйдзецца ж адказваць за выкананне не норм закона, а ўказанняў зверху.

Тады рахунак слугам сённяшняга рэжыму прад'явіць не толькі грамадства ў цэлым, а і асабіста Валерый Шчукін. На гэты конт Канстытуцыя замацоўвае права грамадзян патрабаваць у судовым парадку матэрыяльнай кампенсацыі як маёмаснага, так і маральнага ўрону. І маю смеласць запэўніць, што пры ўзнаўленні законнасці ў краіне гэтая норма Канстытуцыі будзе прымяняцца ў поўным аб'ёме. Тады прыйдзе час расплаты і адказнасці тых, хто спяшаўся дагадзіць трымаючым зараз уладу.

Справядлівасць у рэшце рэшт пераможа. Даўгі за пакаранні Валерыя Шчукіна прыйдзецца вяртаць гэтак жа непазбежна, як сёння яго праследуюць і асуджаюць. Так што таму-сяму варта задумацца над заўтрашнім днём ды прыхаваць пэўны запас грошыкаў на вяртанне нанесенага ўрону. А то, глядзі, давядзецца выплачваць свой доўг усё жыццё...

**Міхаіл ПАСТУХОЎ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар.**

# ГРИПП БЕЗ ГРАНИЦ



### Эпидемия, о которой так долго говорили врачи, пришла на Беларусь.

О начале эпидемии гриппа в стране объявлено официально. Уровень заболеваемости гриппом превышен в пять раз, а в некоторых городах республики — в 7—8. До недавнего времени, по данным Республиканского центра гигиены и эпидемиологии, менее всего от гриппа "пострадали" жители четырех населенных центров республики — Могилева, Полоцка, Речицы и Молодечно.

В нынешнем году грипп пришел на Беларусь с Запада. Из соседней Польши болезнь перекочевала в Брестскую область и пошла "путешествовать" по всей стране.

Какого типа грипп "пришел" в Беларусь нынче, пока не выявлено. Но судя по тому, что в Польше и Калининграде наблюдался грипп типа А, то и по нашей стране "бродит" такой же. Протекает он тяжело, с очень высокой температурой.

К слову, в прошлом году Беларусь "посетили" две разновидности гриппа типа А и вирус гриппа В. Посему мы вроде бы должны знать, как уберечь себя от этой напасти.

Как и в прошлом, так и в этом году при первых симптомах заболевания врачи советуют принимать противовирусные препараты — антигриппокапс, ремантадин, интерферон и не забывать об аскорбиновой кислоте и других витаминах. В рацион своего питания обязательно следует включить лимоны, апельсины, чеснок и лук.

Первыми жертвами гриппа в Беларуси стали дети до 14 лет. И сегодня многие школы страны закрыты на карантин. Грипп также наиболее опасен и для людей преклонного возраста, "хроников" и тех, кто часто болеет респираторными заболеваниями и диабетом. К группе риска относятся и те, кто общается с большим количеством людей.

От гриппа спастись нелегко. Беда в том, что зачастую люди, которые плохо себя чувствуют, не сидят дома, а ходят на работу, гуляют по магазинам, ездят в транспорте и подвергают риску заболеть всех окружающих. А делать это нельзя ни в коем случае. И не только потому, что можно заразить всех остальных. Ведь грипп опасен осложнениями. В России в этом году от серьезных послегрипповых осложнений умерло три человека. Не дай Бог такой статистики в Беларуси.

*Чувствуешь, что заболеваешь, поспеши к врачу, а не на работу!*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Захварэў на грып кожны соты жыхар рэспублікі

З пачатку эпідэміі на грып і вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі ў рэспубліцы ўжо захварэлі больш як сто тысяч чалавек, 226 чалавек у сувязі з тым, што хвароба праходзіць цяжка, гаспіталізаваны, смяротных выпадкаў не зафіксавана. Такія аператыўныя даныя паведаміў карэспандэнту БелТА галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя Анатоль Кажамякін.

**Эдуард ПІВАВАР.**

## Камітэт Міжпарламенцкага саюза прыняў спецыяльную рэзалюцыю па Беларусі

У пачатку лютага ў Жэневе на пасяджэнні Камітэта па правах чалавека і парламентарыяў Міжпарламенцкага саюза была прынята спецыяльная рэзалюцыя па Беларусі. У ёй выказваецца заклапочанасць у сувязі са шматлікімі парушэннямі правоў чалавека на Беларусі, у тым ліку і дэпутатаў рознага ўзроўню. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведаміў старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Анатоль Лябедзька.

Міжпарламенцкі саюз — найбуйнейшая міжнародная арганізацыя, у якую ўваходзіць і Нацыянальны сход Беларусі. На пачатку верасня мінулага года ў Маскве праходзіла юбілейная, 100-я канферэнцыя гэтай арганізацыі. Тады ж Анатоль Лябедзька звярнуў увагу на шматлікія выпадкі парушэнняў правоў дэпутатаў рознага ўзроўню на Беларусі. Яго заява і дакументы, што да яе прыкладзены, былі прыняты для разгляду Камітэтам па правах чалавека і парламентарыяў. У Жэневе Камітэт і разгледзеў беларускае пытанне. На гэтае пасяджэнне быў запрошаны Анатоль Лябедзька, які паведаміў, што афіцыйныя ўлады Беларусі паранейшаму парушаюць правы чалавека наогул і парламентарыяў у прыватнасці.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## Раскрыты шэраг фактаў хабарніцтва сярод дзяржслужачых

Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў Камітэта дзяржбяспекі Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіў звесткі пра факты хабарніцтва, у тым ліку і сярод дзяржслужачых, што былі раскрытыя супрацоўнікамі КДБ на працягу апошняга месяца. Так, упраўленнем КДБ па Гродзенскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа ў дачыненні аднаго з выкладчыкаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, які за хабар у памеры 1500 долараў ЗША аказаў садзейнічанне аднаму з абітурыентаў пры паступленні ў ВНУ.

Першамайскім раённым судом Віцебска разгледжана крымінальная справа, што ўзбуджана па матэрыялах абласнога Упраўлення КДБ у дачыненні аднаго са следчых Першамайскага РАУС. За атрыманне хабару і раскраданне дзяржаўнай маёмасці шляхам злоўжывання службовым становішчам ён асуджаны да 6,5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Суд Ленінскага раёна Бабруйска прыгаварыў да пяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці былога генеральнага дырэктара СП "Белкар" за злоўжыванне службовым становішчам, заніжэнне прыбытку і даходаў, а таксама выманьванне крэдытаў. Крымінальная справа ў дачыненні дырэктара была ўзбуджана і расследавана следчым аддзяленнем Упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці.

**Наталля КУЛАГІНА.**

## "Заяўляем пра сваю рашучасць бараніць незалежнасць..."

Управа згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выступіла з заявай, у якой адзначае, што дамова прэзідэнтаў Расійскай Федэрацыі Б.Ельцына і Беларусі А.Лукашэнкі ад 25 снежня мінулага года пагражае назалежнасці Беларускай дзяржавы.

"Мы лічым галоўнай каштоўнасцю і неабходнай умовай развіцця беларускай нацыі дзяржаўную незалежнасць Рэспублікі Беларусь, — гаворыцца ў заяве. Заяўляем пра сваю рашучасць бараніць незалежнасць і суверэнітэт краіны, процістаяць анексіі Беларусі суседняй краінай".

Анонс



### Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук:

"То, что официальными политиками и пропагандой Москвы и Минска изображается как "неуклонное сближение двух братских народов", — есть не что иное, как планомерное разрушение белорусского государственного суверенитета, подготовляемое и осуществляемое империалистическими силами России при активном участии белорусских коллаборационистов и коммунистической "пятой колонны". В результате поглощения Беларуси, которая находится в центре геополитического равновесия постсоветского пространства, агрессивное российское государство, располагающее вторым по мощности запасом ядерного оружия в мире, подвинется на несколько сотен километров на запад, что создаст реальную угрозу европейской стабильности. Неизбежным следствием этой операции станет формирование новой системы блокового противостояния, возобновление конфронтации между Западом и Востоком, появятся риски военного столкновения с применением ядерных средств".

**С завтрашнего номера "Народная воля" начинает публиковать острые и актуальные размышления доктора философских наук Вячеслава Оргиша.**

**Прочитайте — по-иному увидите многие вещи...**

Право на свободу

## Андрей Климов в неравной борьбе за Конституцию сражается уже целый год. Ему осталось продержаться еще полгода



Рано утром 11 февраля 1998 года депутат Верховного Совета 13-го созыва, известный на Беларуси строитель жилых зданий по высшим евростандартам Андрей Климов был обвинен в хищении государственных средств в особо крупных размерах, арестован и водворен в следственный изолятор на улице Володарского. Прошел год, а начать судебный процесс власти не могут — судя по всему, с доказательствами вины депутата у них туговато.

Андрею Климову осталось продержаться еще полгода. После чего власти с позором для себя вынуждены будут выпустить арестованного депутата на волю. И тогда громкое дело превратится в громкий скандал.

В четверг 11 февраля 1999 года жена парламентария Климова Татьяна Эдуардовна вместе с женой другого находящегося за решеткой депутата - предпринимателя Кудинова — Зоей Михайловной, при поддержке Объединенной Гражданской партии проводят пикет протеста против нарушения прав человека, преследования за политические взгляды, политики подавления предпринимательства, проводимой на Беларуси нынешним режимом.

Место проведения пикета — пересечение улиц Городской Вал и Немиги, недалеко от того места, где томится в неволе известный борец с антидемократическим режимом Андрей Климов.

Время проведения пикета с 15.00 до 16.00.

Ко времени написания материала разрешение столичных властей на проведение данного пикета имелось. Однако в последнее время у городского коммунистического идеолога Виктора Чикина, в ведении которого санкции на проведение политических акций, стало семь пятниц на неделе. Вначале дает разрешение, а потом его отменяет. Поскольку какой-либо логики в действиях сего "вертикальщика" не просматривается, все, видимо, зависит от того, с какой ноги утром встает.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

***На снимке:*** *белорусские "декабристки" Зоя Кудинова и Татьяна Леонович готовы ответить на вопросы горожан и гостей столицы.*

**Фото Владимира Кормилкина.**

## К концу века у республики будет дворец

Самый крупный в нашей стране объект культурного назначения — Дворец республики — начинает постепенно "оживать". Ожидается, что уже в апреле нынешнего года здесь будет сдана в эксплуатацию так называемая вторая очередь, включающая три зала на 500, 200 и 100 мест.

Как сообщил директор Дворца республики Александр Казак, в 1999 году начинается завершающий этап этого грандиозного по своим масштабам строительства. Кстати, его площадь — 43 тысячи квадратных метров. Предстоит довести до "ума" самый большой зал, рассчитанный на 2700 мест, а также всю техническую "начинку".

По словам министра культуры Александра Сосновского, со сдачей Дворца республики в полную эксплуатацию, а это событие ожидается к концу 2000 года, значительно изменится культурная "палитра" нашей страны. Сюда переедет Национальный академический Большой театр оперы и балета — на время довольно длительной реконструкции его здания.

**Виктор КУКЛОВ.**





Абсурд

## Хто дапаможа беларускамоўнаму настаўніку?

Міхась Пятровіч Булавіцкі. Настаўнік матэматыкі. Катэгорыя — вышэйшая. Узрост — 50. Стаж педагагічнай працы: у школе — 11 гадоў, у вну (кафедра методыкі выкладання матэматыкі) — 19 гадоў. Адзін з заснавальнікаў Асацыяцыі педагогаў-даследчыкаў Беларусі, кіраўнік творчай лабараторыі настаўнікаў матэматыкі "УМОМ" пры Рэспубліканскім Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў (1986—1993). Аўтар звыш трыццаці навуковых публікацый аб праблемах выкладання матэматыкі ў школе (на чатырох мовах). Кіраўнік эксперыментальнай работы па засваенні настаўнікамі г.Мінска наватарскіх тэхналогій (1987—1992), за што ўзнагароджаны ў свой час Ганаровай граматай Упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама. Удзельнік некалькіх міжнародных навуковых канферэнцый. Актыўны папулярызатар перспектыўных тэхналогій навучання матэматыцы праз масавую прэсу і непасрэдныя выступленні перад настаўнікамі, з якімі аб'ехаў дзесяткі гарадоў былога Савецкага Саюза. Аўтар першага ў Беларусі падручніка для пятых класаў **беларускіх гімназій** (падручнік выдадзены пробным выпускам у выдавецтве Магілёўскага універсітэта)...

Поспехі яго работы ў школе засведчаны перамогамі вучняў на алімпіядах і ў конкурсах у розныя вну. Аб яго працы ў педагагічным інстытуце студэнты гаварылі так: "Для нас ён быў ідэалам выкладчыка Нам па-сапраўднаму пашчасціла, што мы вучыліся ў Булавіцкага".

...Ужо некалькі месяцаў гэты чалавек беспрацоўны. Кафедра Магілёўскага універсітэта, на якой ён працаваў 19 год, адмовілася ад яго паслуг, бо ён — не кандыдат навук. Чаму ж тады ён не ў школе? Аказваецца, ён шукае школу, дзе б мог выкладаць матэматыку на беларускай мове. Шукае — і не знаходзіць. Просіць: дайце хаця б адзін клас! Няма такога класа. Просіць: дайце мне магчымасць самому набраць такі клас — да мяне пойдуць вучні. Адказваюць: спачатку вы ўладкуйцеся ў рускамоўную школу, а потым з дырэктарам гэтай школы і вырашайце пытанне. Выходзіць, шлях да беларускай мовы ляжыць... праз рускую?

Ці ж патрэбныя Беларусі настаўнікі матэматыкі (мабыць, не толькі матэматыкі), якія валодаюць беларускай мовай, любяць яе і хочуць вучыць дзяцей на гэтай мове?

**Алег ТРУСАЎ,**
**першы намеснік Старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны.**



Пр. Івана (Іаана Златавуста). К. Алалоні, Кірылы.

100 гадоў з дня нараджэння І. Дз. Мішэніна (1899—1974), беларускага вучонага ў галіне тэрапіі.

ЛЮТЫ **9** '99 АЎТОРАК

Усход 7.42
Захад 17.07
Даўж. дня 9.25

Апошн. квадра 8 лютага
Усход 3.00
Захад 12.13

*Васіль ГРОДНІКАЎ*



**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 20, 21.)**

# Вірус настальгії, або Роздум над труной нябожчыка

## 3. Легіёны чакаюць залпа "Аўроры"

Сустрэў мяне на вуліцы мой аднавясковец і пытаецца:

— Скажы мне, браток, а чаму гэта нашы палітыкі дужа загаманілі пра згуртаванне славянскіх народаў і быццам бы зноў Савецкі Саюз аднаўляць збіраюцца? Ды яшчэ чуў, што Захад на нас зубы точыць. Няўжо вайны не мінаваць? Вось у тую ўцалеў, аж да Шпрэі на жываце дапоўз, а ў гэтую, чуе маё сэрца, ужо не ўцалею...

Для мяне такое пытанне было нечаканым, бо добра ведаю сваіх аднавяскоўцаў. Яны, нават тыя, хто ўжо і літары забыўся, хто, акрамя праграмы перадач тэлебачання, нічога не чытае, ведаюць адказы на гэтыя пытанні ад Беларускага радыё і айчыннага ТБ. Выгадна і проста: чытаць не трэба, думаць сваёй галавой не абавязкова, каб аналізаваць і супастаўляць, а слухай сабе гатовае прапагандысцкае варыва, ужывай на здароўе і не ламай галавы. А скажы толькі каму што-небудзь насуперак, як ён табе з усяе моцы злосці і нянавісці дасць такі адлуп, ну, слова ў слова, быццам перапісаў, а потым вывучыў на памяць выступленне якога-небудзь прафесара Акулава або каментарый сумнавядомага Зімоўскага. Тут, на вёсцы, любяць паслухаць байкі дзяржаўных палітаглядальнікаў, каментатараў, "народных слуг", "вертыкальны слуп", былых і цяперашніх прарабаў адваротнага курсу і будаўнікоў камунізма з двухрублёвай каўбасой.

Але на дзіва знайшоўся чалавек, які быццам у прыстойныя старыя часы па-добраму загаварыў пра палітыку, хоча пачуць тваю думку і, магчыма, параўнаць са сваёй, паважаючы цябе як інтэлігентнага і адукаванага чалавека. І, канечне ж, паважаючы не толькі за гэта, але і маючы на ўвазе тое, як ты жывеш з суседзямі ці паважаюць цябе людзі на вёсцы. На сённяшні дзень, пагадзіцеся, такія добразычлівыя адносіны вялікая рэдкасць.

Са з'яўленнем на Беларусі вялікага інтэгратара (а па звестках дзяржаўных СМІ яшчэ і вялікага спецыяліста ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі) пачаліся знешне прывабныя інтэграцыйныя працэсы. Праўда, не ўсебаковыя, паміж краінамі-суседзямі, а чамусьці ў накірунку толькі на ўсход і ў арабска-в'етнама-кубінскім напрамку. Спачатку ды і цяпер мэта такой інтэграцыі была прыкладна як у той цёткі, што вяла дэбаты з шафёрам-лавачнікам. Потым, калі ад той інтэграцыі справы ў беларускай дзяржавы не палепшыліся, пачаліся настойлівыя заручыны да Расіі адносна Саюзу дзвюх дзяржаў. Апасля ішлі размовы пра канфедэрацыю, цяпер — пра ўсеабдымнае злучэнне. Пэўне, таму-сяму з беларускіх кіраўнікоў па-сялянску думаецца так: будзем разам — усё па-роўнаму. Ат, не тут тое было! Хутка беларускі бок гучна і ўрачыста (у нас сціпла не ўмеюць!) адсвяткуюць чарговую гадавіну з дня таго "вяселля" (Масква, праўда з такой нагоды ніколі не ладзіла "пір на весь мир"), настваралі розных надурадавых структур і ўстаноў, стараюцца скрыжаваць вожыка з вужам (маецца на ўвазе стыкоўка беларускага і расійскага заканадаўстваў), зацвердзілі сумесны бюджэт Саюза, паперамена то тут, то там праціраюць штаны на так званых аб'яднаных парламенцкіх пасядзелках нашы "палатнікі" і расійскія "думнікі". Але і на гарадскім, і на вясковым узроўні зрухі на графіку нашага "эканамічнага ўзлёту" паўзуць уніз. На дзяржаўным узроўні аж, бывае, і пахваляюцца: няхай калода гнілая, але сук — смаляк! Даўгі па газе, нафце, метале растуць, а Беларусі няма чым плаціць, акрамя як па бартары, ад якога Расія і ў сябе дома ніяк не можа ўратавацца. Бярэ, праўда, харчамі, за якімі мы ў апошнія месяцы стаім у доўгіх-доўгіх чэргах. І замест братэрства і ўзаемадапамогі краіны "па-сваяцку" пачалі высвятляць адносіны: хто каму больш вінаваты. Гэта, лічы, адбываецца ў "мядовы месяц". А што будзе значыць такое супрацоўніцтва ў будучым? Мне чамусьці ўсё гэта нагадвае такую карціну: хутаранін і калгас аб'ядналіся ў саюз, у адну гаспадарку і пасля гэтага хутаранін хоча мець такі ж статус, як і старшыня калгаса. Тут так: не свой брат, не скажаш — адсунься.

Ды і глабальныя нацыянальныя інтарэсы абедзвюх краін зусім не супадаюць, не кажучы ўжо пра характар і статус "старшыні калгаса" і "хутараніна". Беларусі хочацца выпаўзці з эканамічнага балота за кошт рэсурсаў Расіі і пры дапамозе яе капіталаўкладанняў, а Расію непакояць шляхі-дарогі на асфальце, рэйках і ў небе, нафтавыя і газавыя артэрыі, што ідуць праз нашу краіну, звязваючы напрамую Расію і Захад, напаўняючы партнёрскую казну цвёрдымі замежнымі "тугрыкамі". А эканоміка сяброўкі (швагеркі) у стратэгічныя планы Расіі не ўваходзіць. Ёй бы са сваімі праблемамі ўправіцца. На думку некаторых расійскіх дзяржаўных чыноўнікаў Беларусь павінна быць удзячна Расіі за тое, што ёй прадставілі магчымасць як дружалюбнай дзяржаве без канкурэнцыі і розных тэндэраў асвойваць расійскі рынак, напрамую звязваючыся з яе рэгіёнамі. А пра сваю эканоміку кожная краіна павінна клапаціцца сама. Калі "ажаніліся", то, можа, ад вялікай прагі, а можа, і з-за перадвясельных клопатаў нават не падумалі пра "шлюбны кантракт". А каб па-цвярозаму, без сліны на вуснах, то маглі б адкласці першую "шлюбную ноч" ды сесці за стол з алоўкамі ў руках (а не кілішкамі), каб падлічыць кошты ўзаемных паслуг ды пагля дзець у куфэркі з пасагамі. Тады, можа, і не было б разборак на самым версе: хто каго надуў. Яно, праўда, заўсёды бывае так: калі залезеш у нерат, то далёка не заплывеш...

Вы скажаце, што гэта — палітыка, што не варта прыдаваць такой увагі. Правільна, гэта — палітыка. Але там, дзе на першае месца выходзіць палітыка, там шчырага сяброўства і шчырых адносін, як правіла, не бывае. Таму і "сябра Біл", "сябра Гельмут", "сябра Жак", "сябра Лю", "сябра Сашка", "сябра Бора" — усё гэта так, дзеля палітыкі, дзеля простых людзей (электарата). А нашы, выходзіць, у тым "загсе" па прастаце сваёй мужыцкай нават і не прыгадалі старую рускую прымаўку: "Дружба — дружбой, а табачок — врозь".

Той, хто думае, што палітычнае і эканамічнае становішча ў Беларусі і вакол яе больш-менш стабільнае, памыляецца. Сёння, як бы старанна ні сцвярджалі дзяржаўныя СМІ і ўладаносныя мужы пра нашы поспехі, але прадказаць лепшае палітычнае надвор'е не адважыцца ніводзін палітсіноптык. Вы ж уважліва пагля дзіце наўкола: хоць і вешаюць локшыну на вушы электарату пра курс на "рынкавы сацыялізм", "свабоду прадпрымальніцтва" і г.д., існуе на самай справе адзіны шлях — назад. А тлумачэнне таму вельмі простае: у СССР было хоць і не вельмі добра, затое лепш, чым сёння. Весці краіну курсам дэмакратычных рэформ у прэзідэнта і ўрада духу не хапае, няма пэўных здольнасцей, няма прафесіянальнай каманды, акрамя каманды землякоў — паплечнікаў прэзідэнта, далей свайго носу яны нічога не бачаць. А таму такі курс каманднай эканомікі, на думку прэзідэнта і яго ўрада, падтрымае просты электарат, таму што сваім непрафесіяналізмам яны загналі людзей у галечу і голад. І просты люд вымушаны хоць сёння рвануць назад, у СССР, таму што зацяжныя "цудоўныя вынікі рынкавага сацыялізму" яму ўжо сталі ўпоперак горла. Гэта, на маю думку, яшчэ адзін з прыёмаў "добраахвотнага" вяртання ў сістэму дыктатуры і таталітарызму.

І ўсё больш і больш на самым версе пагаворваюць пра верагоднае вяртанне ў Савецкі Саюз, але з новым "чалавечым тварам". Але ж усім вядома, што выраз твару звычайна мяняецца ад настрою, тым больш палітычнага і эканамічнага.

А я, можа, і па наіўнасці сваёй думаю так: як жа можна загнаць назад у СССР тры краіны былой савецкай Прыбалтыкі, краіны Закаўказзя, Сярэдняй Азіі, Украіну, Малдову? Што маюць на ўвазе камуністы, калі гавораць пра вяртанне цяпер ужо самастойных, прызнаных сусветным суполлем, дзяржаў назад у Савецкі Саюз? Танкамі, ракетамі, высадкай ваенна-паветранага дэсанту, унутрыдзяржаўнай контррэвалюцыяй ці звычайным аб'яўленнем захопніцкай вайны? А калі паіншаму, то хто ведае, што ў галовах тых, хто сёння марыць, заклікае, мітынгуе, робіць адпаведныя захады вярнуць краіны і іх народы назад у СССР. Як гэта яны думаюць зрабіць добраахвотна, бяскроўна, з узаемнай згоды і жадання саміх народаў? Няўжо іх не навучыла Чэчня, дзе на ўзроўні самага нізу паказаны ўсім жахлівыя прыклады жорсткага непрыняцця дыктату, прымусу і ўціску цэлага народа і яго нацыянальнай годнасці? А прыклады Прыднястроўя, Нагорнага Карабаха, Абхазіі і Грузіі, канфлікт Расіі з Украінай наводле статусу Севастопаля і Чарнаморскага флоту? І ці закончыліся на тым усе гэтыя канфлікты і ці не ўспыхнуць яны зноў у будучым, бо і надалей будуць старацца распальваць гэты агонь камуністы, нацыянал-шавіністы, нацыянал-патрыёты, антысеміты і ўсякія ліберал-сацыял-дэмакраты, дасягаючы тым самым сваю запаветную мэту: чым горш, тым лепш для авангарднай ролі сваіх партый і груповак сярод адпаведнай праслойкі насельніцтва, зусім не клапоцячыся пра эканамічны, палітычны і міжнародны імідж самой Расіі?! Які знаёмы почырк! Ну, быццам канём па градах!

Дык што ж нам, нашым дзецям і ўнукам рыхтуюць палітыкі-камуністы, народаўладнікі, патрыёты і беларускія чырвона-карычневыя чыкінцы, заклікаючы да аднаўлення былога СССР?

Няўжо ніхто з гэтых "праваДыроў", іх аднадумцаў і прыхільнікаў, а таксама тыя, хто на ўсё гэта глядзіць абыякава або несур'ёзна, не разумеюць, што заклікі да аднаўлення СССР (а маецца на ўвазе прымяненне, мякка кажучы, не вельмі гуманных і дружалюбных камуністычных захадаў пры дасягненні сваёй запаветнай мары) азначаюць развязванне вайны?!

Цяпер, думаю, шмат хто з тых, хто чытае гэтыя радкі, можа яскрава зразумець наступствы той палітыкі, якую вядуць "абаронцы", "слугі", "заступнікі" простага народа, у апошні час палохаючы нас агрэсіўным пашырэннем НАТА на Усход (маецца на ўвазе прыняцце ў іх рады Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, а ў далейшым — краін Балтыі і астатніх дзяржаў Усходняй Еўропы). Нагадаем дзеля аб'ектыўнасці: гэтыя краіны, жадаючы ўступіць у НАТА, правялі самыя што ні на ёсць дэмакратычныя рэферэндумы (не раўня нашым!) і ні дэмакраты, ні нацыянал-шавіністы, ні нацыянал-радыкалы, ні парламенты, а сам народ гэтых краін пераважнай большасцю сваёй выказаўся за ўступленне сваіх краін у НАТА.

А цяпер давайце задумаемся: а чаму былыя краіны — саюзніцы па сацлагеры і былыя савецкія рэспублікі Прыбалтыкі імкнуцца пад крыло НАТА? І каб не адпаведныя эканамічныя і палітычныя абставіны ў былых савецкіх рэспубліках еўрапейскай часткі былога СССР — Украіне, Малдове і нават Беларусі — то і яны выказаліся б за ўступленне ў Паўночнаатлантычны альянс. А чаго і чаму яны шукаюць прытулку ў еўрапейскай садружнасці? Ці не таму, што ў вялікай Расіі з яе гістарычна-агрэсіўнай імперскай палітыкай сённяшняя палітычная абстаноўка настолькі нестабільная, што ніхто ўжо не можа гарантаваць, што заўтра там не прыйдуць да ўлады чырвона-карычневыя? І тады можа адбыцца такое, што яны на падставе даўно забытага саюзнага рэферэндуму, праведзенага ў абстаноўцы савецкай таталітарнай сістэмы і пад яе ўздзеяннем, не прамінуць выпадку разгарнуць рух назад у непарушны і магутны Савецкі Саюз.

Вось чаму сёння асцярожнічаюць з прыняццем законаў аб грамадзянстве ў Латвіі, Эстоніі, Літве і іншых былых рэспубліках СССР (акрамя, канешне, Беларусі). Баючыся фарміравання ўнутраных савецка-расійскіх легіёнаў з былых вайскоўцаў, супрацоўнікаў КДБ, МУС і іншых вайсковых і ваенізаваных падраздзяленняў, якія, не выключана, з вялікай ахвотай выканаюць ролю "траянскага каня" пры спробе чырвона-карычневых вярнуць сілай гэтыя краіны назад у Саюз, у еўраазіяцкую таталітарную сістэму. Тамашнія "чырвоныя легіёны" чакаюць залпа "Аўроры", прагнучы напалмам выпаліць усялякае жаданне народаў былога СССР да свабоды, дэмакратыі, незалежнасці і дзяржаўнасці. А дапамогуць ім яшчэ і мясцовыя "пятыя калоны".

Прашу паважаных чытачоў не лічыць гэты сумны аповед за прагноз палітсіноптыка. Лічыце гэта звычайным роздумам простага вясковага жыхара-пенсіянера, які душой і сэрцам хварэе за свабодную, дэмакратычную і незалежную Беларусь, чыстую да сінявы ад агрэсіўнасці, рэваншызму, шавінізму і рознага іншага "шызму". Як я думаю, прычынай гэтым сумным развагам стаў сапсаваны радыётранзістар старой савецкай маркі "VEF-202" падчас урачыстых і настальгічных угодкаў у гонар магутнага, "непарушнага" і вельмі небяспечнага для свету Савецкага Саюза. Але пакідаю вам на развітанне і роздум адну вельмі каштоўную народную мудрасць: да чыстай крыніцы сцежка заўсёды бывае ўтаптаная...

...Гляджу я на труну нябожчыка, чую галашэнні і прычытанні яго родных і блізкіх, не дужа зладжаную мелодыю нейкай рэвалюцыйнай песні ці марша (ваенны аркестр задубеў на пранізлівым ветры). І раптам з калючай снежнай пазёмкай наляцела на мяне жахлівая думка: а што калі нябожчык вось-вось адсуне крышку труны, сядзе ў ёй і прышчуранымі вачыма ўсміхнецца: не дам я вам ісці няправільнай дарогай, таварышы! Было ж такое ў жыцці, калі нябожчыкі ажывалі...

І я хуценька, ахінуўшы сябе святым крыжам, сыпануў добрую жменю прамерзлага пяску ў глыбокую зацішную яму. Майму прыкладу паследавалі іншыя: хто аддаючы даніну святому абраду, хто — так, як усе, а хто ад радасці, што ўсё гэта нарэшце скончылася.

Магільшчыкі-пралетарыі з шызымі насамі спраўна руйнавалі дол рыдлёўкамі, ставілі тумбачку з чырвонай пяціроЖкай.

Гэта, пэўне, будзе апошняя чырвоная зорка на гэтым заснежаным і перанаселеным старым могільніку...

**в.Мазалі Маладзечанскага раёна.**

## Возвращаемся к обязательному страхованию имущества колхозов и совхозов

К обязательному страхованию своего имущества предстоит возвратиться в нынешнем году колхозам и совхозам страны. Об этом заявил министр сельского хозяйства и продовольствия Юрий Мороз. Необходимость этого шага, пояснил глава аграрного ведомства, объясняется тем, что в последние годы хозяйства стали терпеть огромные убытки от стихийных бедствий и несчастных случаев. Только по этой причине в минувшем году колхозы и совхозы Беларуси безвозвратно потеряли около 11 триллионов рублей.

**Олег ШВЕДОВ.**

## Вопросов много, ответов нет

Знают ли в правительстве, сколько стоит детское питание? В неделю — 7 долларов, в месяц — 30. Укропная вода, пеленки, распашонки, чепчики — все стоит денег. Пустышка и та в аптеке продается за 135 тысяч "зайчиков". Если беременная мама состоит на бирже труда, она получает 350 тысяч рублей. После родов ей доплатят 10 процентов. Что может она купить на такую сумму? Именно государство заставляет женщин не рожать. Именно оно толкает на такие преступления, когда малыша оставляют в больнице или сдают в приют. Если ребенок рождается ослабленным (а это сплошь и рядом, потому что хлеб и картошка — главная пища беременных), то надо разориться на одних лекарствах. Кто придумывает такие цены на уколы и таблетки, что от одного взгляда на них в глазах темнеет? Ведь в лекарствах нуждаются в основном малые да старые. Первые денег вообще не имеют, а вторые получают такую пенсию, что и болеть не захочешь. Но государство, которое выжало из них все соки, обобрало, отняло сбережения, убеждения и идеалы, мучает их нищетой. Большинство стариков живут только хлебом единым и задают единственный вопрос: за что?

Но вопросов много, а ответов нет, пока мы сами не изменим все к лучшему.

**Игорь ШЕПЕЛЮК.**

**Происшествия**

## Таежный поцелуй

На всю жизнь запомнит жаркие поцелуи любвеобильной тигрицы в глухой амурской тайге один из жителей Приморья — лесоруб ТОО "Таежное".

Неожиданная встреча с редким хищником произошла в Дальнереченском районе Приморского края. Вечером, как обычно, бригада рабочих, едва передвигавших от усталости ноги, возвращалась домой после тяжелой смены в лесу. Лесорубы глазам своим не поверили, когда из-за деревьев, громко рыча, прямо на них выскочила крупная тигрица. Прошло несколько секунд, прежде чем они осознали, что это не галлюцинации. Побелевшие от страха мужики, как по команде, упали в снег, притворившись мертвыми. И только один из них, забыв про усталость, пустился наутек. Бежал что есть мочи. Правда, далеко уйти ему не удалось. Зверь мгновенно догнал беглеца и ударил лапой по спине. В то же мгновение лесорубы мысленно похоронили своего товарища.

Однако вместо кровавой расправы лесорубы увидели любовную сцену. Обнюхав рабочего, тигрица начала нежно тереться о его ноги, а затем... целовать. Облобызав человека, полосатая красавица скрылась в тайге.

В поселке рассказ шокированных рабочих восприняли как небылицу. Между тем биологи отнеслись к случившемуся вполне серьезно. По мнению руководителя специального отряда "Тигр" Госкомэкологии России Владимира Щетинина, в январе у этих редких животных период гона. Этим можно объяснить необычное поведение некоторых особей. В это время тигры дуреют, теряют бдительность, превращаются чуть ли не в домашних кошек, которым хочется потереться о ноги человека. Впрочем, о поцелуях зоологам слышать еще не приходилось.

**Дмитрий БАРИНОВ.**

## Папулярныя ў свеце

Буйны заказ з В'етнама на пастаўку 36 тысяч матацыклаў атрымаў Мінскі мотавелазавод. Кантракт прадугледжвае частковую прамую аплату і бартэр.

Сёння беларускія матацыклы купляюць у 15 краінах далёкага замежжа, сярод якіх ЗША, Польшча, Турцыя, Егіпет. Нядаўна ўзоры нашай мотатэхнікі адправілі і ў Лацінскую Амерыку.

**Лілія КРАПІВІНА.**

## И Бога не побоялись

Судя по всему, за восьмидесятилетними супругами из деревни Александровка Жлобинского района следили давно. Впрочем, их набожность была известна многим, как и то, что в своем доме они хранили старинные иконы и церковные книги. Поздним вечером, когда хозяева уже спали, в их дом проникли грабители в масках. Увидев проснувшихся супругов, преступники зажгли дымовую шашку. Они прихватили ценную церковную книгу, две иконы с изображением Богородицы, бронзовое распятие и скрылись. Хозяева, к счастью, не пострадали.

**Виктор КОТОВ.**

**Размову працягвае чытач**

*20 студзеня ў "Народнай волі" быў надрукаваны ліст дэпутата-палатніка М.Чаргінца лідэру БНФ З.Пазьняку.*

*Публікацыя выклікала шырокі рэзананс. Сёння размову працягваюць рабочы з Гомеля Іван Адаменка і жыхар Мінска Іван Курмановіч.*

## Гэта ж дзе нарадзіліся такія людзі, якія без вайны аддаюць Радзіму ў палон?

Добры дзень, "Народная воля"!

Прачытаў у чарговым нумары адказ дэпутата-палатніка Чаргінца лідэру БНФ З.С.Пазьняку. І так мне захацелася сказаць, што аднабокая ў Вас памяць, спадар Чаргінец!

Пачнём з канца Вашага пісьма. Можа, хто і забыў, але гэта агульнавядомы факт, што палова Вярхоўнага Савета 12-га склікання была не абрана, а назначана. Таксама як і зараз: Вас ніхто ў цывілізаваным свеце не прызнае і не пускае за мяжу. І правільна БНФ рабіў, што збіраў подпісы за адстаўку такога Савета. Калі б гэта адбылося, то не было б зараз такога страшэннага сораму перад усім светам і збяднення народа.

Вось вы ўспомнілі, што казаў Пазьняк у 1990 годзе. Так, у кожнага сапраўднага беларуса баліць і будзе балець душа па Вільні і Беластоку, Бранску і Смаленску! Справа ўся ў тым, што Пазьняк сказаў аб сваіх пачуццях, а сябры-камуністы рабілі свае брудныя справы. Яны душылі танкамі людзей ў Вільнюсе, забівалі мытнікаў на беларуска-літоўскай мяжы, білі сапёрнымі рыдлёўкамі людзей у Тбілісі, Баку. Стварылі канфлікты ў Малдове і Абхазіі. А што натварылі ў Чэчні, дык і зусім жудасна.

Я ўжо не ўспамінаю пра Афганістан, які і зараз выкарыстоўваюць у палітычных мэтах. Замест пампезных мерапрыемстваў аддалі б грошы сем'ям загінуўшых і калекам той вайны.

А вось вам апошні прыклад. Сябра беларускіх кіраўнікоў Лужкоў прыкладае ўсе сілы, каб далучыць Крым да Расіі. Каб праца і адпачынак былі побач. Што гэта? Не тэрытарыяльныя замашкі? Але пра гэта вы ні гугу. А тое, што наша кіраўніцтва знайшло свае нацыянальныя інтарэсы аж у Іраку і Югаславіі, гэта не вар'яцтва? А зараз усе намаганні скіраваны на продаж Беларусі Расіі, праўда, пакуль мірным шляхам.

Гэта ж дзе маглі нарадзіцца такія людзі, якія кніжкі яны чыталі, каб без вайны аддаваць Радзіму ў палон?

Ну няхай аднаму засела ў галаву ідэя "ашчаслівіць" увесь народ праз пасаду ў Крамлі. А ўсім жа пасад не хопіць, там свае ёсць. Ды і нашчадкі потым праклянуць. Лукашэнкаўская, а значыць, і ваша "інтэграцыя" — гэта таксама замах на тэрыторыю Беларусі. І Вы гэта добра разумееце. Відаць, па гэтай прычыне баіцеся падпісваць больш радыкальныя дакументы. Вось ужо колькі часу збіраецеся, праядаеце народныя грошы, а плёну з вашай працы няма. Яго і не павінна быць, таму што ўсё гэта лухта! Увесь свет гандлюе паміж сабой без утварэння палітычных структур. Вы, відаць, не ходзіце на базар. А карысна было б паглядзець. Маленькія в'етнамцы завалілі ўвесь базар разнастайнымі таварамі, якія, дарэчы, правозілі праз некалькі межаў! І самае дзіўнае, што яны не ўступалі і не падпісвалі ніякіх папер аб саюзах.

А Вам і Вашым сябрам, каб завезці наш трактар ці халадзільнік у Расію, абавязкова патрэбен Саюз. Яшчэ і нам з раніцы да вечара па радыё і тэлебачанні ўбіваеце ў галаву, што прападзём без Расіі. Мы ж, дзякуй Богу, не дурні і не калекі.

Так што, шаноўны спадар Чаргінец, далёка яшчэ Вам да Пазьняка, а да Беларусі яшчэ далей.

Я шчыра Вам спачуваю.

Жыве Беларусь!

**Іван АДАМЕНКА, рабочы.**

Гомель.

## Так была ли диффамация?

Не мною замечено: "Спор — решето истины". Независимая "Народная воля" предоставила свои страницы для высказывания различных точек зрения З.Позняку и Н.Чергинцу (см. номера газеты за 18.11.98г. и 20.01.99г.). К сожалению, правительственные СМИ этого не допускают. Вступая в спор, Николаю Ивановичу, как бывшему футболисту, следовало бы помнить, что, играя на чужом поле, необходимо соблюдать правила игры, иначе будешь освистан. Но он все же предпочел тактику мелкого фола: подножки, хватание за майку, щипки... Так, в начале он исказил название публикации в газете. Дальше выяснилось, что оппоненты говорят на разных языках. Публикация в газете о заявлении З.Позняка "Аб дыфамацыі" сделана на белорусском языке, как и само заявление. Позволю заметить Зенону Станиславовичу, что язык, применяемый им, порой непривычен народу, а высказывания иногда слишком категоричны, что, при всей их объективности, отпугивает людей. Применение им и БНФ тарашкевицы, заявление о русском империализме оказались для людей неожиданными, даже ошарашивающими. Да и слово "диффамация", скажу честно, для меня и моих знакомых оказалось неизвестным. "Советский (?!) толковый словарь" разъяснил: распространение порочащих сведений.

Н.Чергинец, отвергая диффамацию, возражает на русском языке, не снизойдя до белорусского, что говорит не только о неуважении к оппоненту, но и к государственному языку, о культуре общения. Этим он, вероятно, хотел подчеркнуть национализм оппонента и продемонстрировать свой интернационализм. Время рассудит, "кто более матери-истории ценен": "националист", борющийся за сохранение суверенитета, культуры, языка Беларуси, улучшение жизни народа, или человек, исполнявший "интернациональный долг" в Афганистане, теперь поддерживающий провальную экономическую политику президента, направленную на уничтожение государственности. Действия, проявленные Николаем Ивановичем в Афганистане, оказывается, не принесли счастья афганскому народу. Но тогда он выполнял приказы командования, а теперь, став народным депутатом, должен был бы служить народу и Закону, но этого не происходит. Иначе чем можно объяснить его, ученого-правоведа, заявление о легитимности назначенного президентом так называемого Национального собрания — "нынешнего парламента", основанного на том, что "к нему приезжают руководители и представители...", а не ссылкой на Конституцию и другие законы. Николай Иванович умалчивает, что ОБСЕ, Совет Европы, другие международные организации и государства признают легитимным только Верховный Совет 13-го созыва. Обоснование введения новой, президентской конституции "волей народа" — не является законным. "Закон не может заменить мораль, власть — право, а народное мнение — разум" (В.Швебель). История неоднократно доказала, что мнение большинства не есть истина, оно не всегда разумно. Сказав, что "не так уж нынешний парламент нелегитимен", Николай Иванович признал, что он нелегитимен, но немножко. Как женщина — немножко беременна.

С подтекстом Н.Чергинец называет своего оппонента "легитимным эмигрантом", "добровольным изгнанником", "местечковым фюрером". Смею заметить, не являясь полным его единомышленником, З.Позняк говорил то, что думал, еще в те времена, когда это делать было очень опасно, и проявил мужество, принципиальность, патриотизм, национализм в хорошем, настоящем смысле этого слова. А когда в Беларуси стал твориться произвол, ему пришлось уехать. Ненапрасные его опасения подтверждает такой факт: всем известно, что власть и зависимая судебная система творят с фронтовиком, инвалидом, дважды Героем Социалистического Труда 75-летним В.Старовойтовым. Для него не постеснялись сварить специальную клетку. Каждый из нас виноват в этом, потому что позволяем издеваться над заслуженнейшим человеком, и не только над ним. При нашем "правосудии" за решеткой может оказаться любой.

Нельзя забывать о прошлом. Кто его не помнит, может пережить его вновь. Излишне напоминать юристу и законотворцу Н.Чергинцу, что соблюдение законов **всеми** спасет нас от произвола. Но у нас нарушается уже и президентская конституция, что подтверждается принятием нового закона о выборах в местные советы и заключением Союза, военных договоров. И это уже не без участия руководителя комиссии по международным делам так называемого Национального собрания Н.Чергинца.

А то, что Николай Иванович называет территориальными претензиями З.Позняка, является простой констатацией фактов истории. Это подтвердил сам президент визитом в Смоленск на празднование 80-летия БССР. То, что говорит З.Позняк о прошлом, не является территориальными притязаниями, и не сеет он межнациональную рознь. Утверждения и обвинения, содержащиеся в "представлении" в Парламентскую ассамблею Совета Европы и в материале-ответе Н.Чергинца, беспочвенны, фразы в них тенденциозно выхвачены из текста. К сожалению, такой метод широко применяется белорусским телевидением и другими государственными СМИ. Они не гнушаются оскорблениями, подтасовкой фактов, навешиванием ярлыков. Как будто те, кто выходит на улицы, чтобы выразить несогласие с политикой правителей и хотят быть услышанными, не являются гражданами республики. Подача информации таким образом — диффамация! Или правдобоязнь.

Жалко, что Николай Иванович — человек, понявший цену жизни, которой афганцы жертвовали ради свободы, независимости, писатель — инженер душ человеческих, не служит правде, закону, народу. И если он — генерал милиции — не согласен с тем, что его представление является диффамацией, то пусть назовет по-другому, как называют это оперативно-розыскные работники.

**Иван КУРМАНОВИЧ, житель Минска.**

**P.S.** *Рекомендация З.Позняку написать "что-нибудь "Об американском империализме и его опасности для народов мира" давно устарела. В советские времена об этом написано очень много, в том числе, видимо, и самим Н.Чергинцом.*

## Армейская специальность пригодится и на "гражданке"

Более шести тысяч специалистов ежегодно готовится в учебных центрах и частях белорусской армии.

Как сообщили БелТА в пресс-службе Министерства обороны, в "учебках" ребята получат не только сугубо военные специальности. Большинство солдат и сержантов смогут применить полученные в войсках знания и после окончания службы. Например, водители, которых ежегодно готовится в армейских учебных подразделениях более тысячи. Механики, электрики, повара тоже могут не беспокоиться о своем послеармейском трудоустройстве.

**Стоп-кадр**



*Зима в минском парке имени Горького.*

**Фото IREX/ProMedia.**

## И себя прославил, и "Крыніцу"

Третий по счету официальный диплом Книги рекордов Гиннесса получил могилевчанин Александр Бендиков.

Чтобы в очередной раз попасть в знаменитый реестр всевозможных рекордов, ему пришлось проявить немалую изобретательность. Более 410 тысяч пробок из-под пивных бутылок с символикой АП "Крыніца" понадобилось рекордсмену для строительства пирамиды-гиганта. Кстати, наш земляк в одиночку значительно превзошел предыдущий аналогичный рекорд группы московских "строителей", использовав в своей конструкции почти на 10 тысяч больше пробок. Более месяца продолжалось это необычное строительство, а ожидание официальной регистрации рекорда затянулось почти на год.

Нынешняя хрупкая конструкция - высотой около метра и более четырех метров в периметре. Она уже больше года стоит в специально отведенной комнате арендного предприятия "Крыніца", выступившего главным спонсором проекта. По словам его генерального директора Владимира Бодрова, руководители "Крыніцы" уверены, что не зря поддержали начинание могилевского "архитектора". Ведь после выхода очередного тома Книги рекордов Гиннесса об этом минском предприятии узнают во всем мире.

**Игорь ХАДАСЕВИЧ.**

**Беспредел**

## 22 месяца новополочанин Лев Ходос находится за решеткой. Предельный срок содержания под стражей — полтора года

Третий месяц в городском здании новополоцкой Фемиды идет судебный процесс по делу Льва Ходоса. Нарушение прав предпринимателя, начатое на предварительном следствии, продолжает Витебский областной суд.

"Народная воля" уже писала (N205 за 14.11.98 г.), что в нарушение **статьи 95** УПК, **принципа 19** "Свода принципов защиты лиц, подвергаемых задержанию или заключению в какой бы то ни было форме", **пункта 37 и 92** "Минимальных стандартных правил обращения с заключенными", 22 месяца жену лишают возможности свидания с мужем, а сына с отцом. Я считаю, что Витебский областной суд, рассматривая обвинения в преступлении закона, предъявленные Льву Ходосу, сам совершает по отношению к подсудимому преступные деяния.

Сроки содержания обвиняемого под стражей четко регламентированы в **общих положениях** Уголовно-процессуального кодекса (раздел I, статья 92). Лишение свободы до вынесения судебного решения о виновности не должно превышать **полтора года**. Дальнейшее продление срока **не допускается**. Содержащийся под стражей обвиняемый подлежит **немедленному освобождению** (часть третья статьи 92 УПК). Ни раздел III — предварительное следствие, ни раздел IV — производство в суде первой инстанции не предоставляют следствию и суду права на содержание под стражей сверх полутора лет.

Более того, статья 224 (пункт 9) обязывает суд проверить правильность избранной в отношении обвиняемого меры пресечения. Определение распорядительного заседания суда должно содержать решение о мере пресечения в отношении подсудимого (статья 232 УПК). Законное решение!

А начиная с 29 сентября 1998 года содержание под стражей Льва Ходоса — **незаконно**. В отношении его вынесено заведомо неправосудное определение суда о продлении меры пресечения — содержание под стражей — сверх предельного полуторагодичного срока. Статья 173 УК предусматривает уголовную ответственность судей за подобные деяния. Но несмотря на это Витебский областной суд до сего времени продолжает удерживать Льва Ходоса под стражей и запрещает свидания. На моих глазах 28 января 1999 года судья С.Иванова в очередной раз категорически отказала жене подсудимого — Вере Дмитриевне — в свидании.

22 месяца на Витебщине Льву Ходосу и его семье причиняют физические и нравственные страдания, что классифицируется как пытка (статья 1 "Конвенции против пыток и других жестоких, бесчеловечных или унижающих достоинство видов обращения и наказания"). И конца края им не видно. Правозащитник Алексей Филипченко даже ценой собственной жизни не смог остановить судебный произвол на Витебщине. Полгода спустя после его огненной акции в Новополоцком суде вновь попирают Конституцию и права человека...

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

## Ночью — гроза, утром — снегопад

Необычное для этого времени года природное явление наблюдалось в Витебске. Вынужденные бодрствовать по роду занятий или страдающие бессонницей горожане стали свидетелями грозы, разразившейся в 3 часа ночи с 4 на 5 февраля. Полыхала молния, гремел гром, а к утру город был покрыт толстым слоем необычайно чистого, с голубым оттенком снега.

В Витебском гидрометцентре корреспонденту БелТА сообщили, что в районе метеостанции гроза не была зафиксирована, поэтому специалисты не смогли подтвердить данный факт. Однако они отметили, что по погодным условиям гроза вполне могла быть.

Смещение атмосферных фронтов, порывы ветра, кучевые облака — всеми признаками этого природного явления небесная канцелярия располагала.

**Ольга СИДОРОВИЧ.**

